# СЛОНІМСКІ КРАЙ

**№ 6, ліпень 2016**

**Краязнаўчы бюлетэнь**




*Старыя фотаздымкі*

## *Слонімская царква святой Тройцы ў 1917 годзе*

Верхні здымак быў апублікаваны ў газеце “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) 5 студзеня 1918 года. На ім бачым слонімскую царкву святой Тройцы. Фота зроблена найхутчэй летам 1917 года. Купал храма ў такім выглядзе праіснаваў да 1927 года, калі польскія ўлады правялі рэканструкцыю вежы. У далейшым купал яшчэ неаднаразова змянялі, апошні раз — восенню 2015-га, калі з’явілася “цыбуліна”, якая выклікала гарачыя спрэчкі (у тым ліку і ў рэспубліканскіх СМІ).



Здымак з нямецкай газеты цікавы і тым, што мы бачым прыватную забудову ў раёне цяперашніх вуліц Карла Маркса і Чырвонаармейскай. Большасць будынкаў у гэтым квартале не захаваліся. Больш таго, мы нават не ведалі, як яны выглядалі.

На другім здымку ўнізе бачым царкву св. Тройцы на паштоўцы 1917 года. На гэты раз здымак быў зроблены з завулка каля цяперашняй Чырвонаармейскай вуліцы. На сайце wikimedia.org памылкова напісалі, што гэта Бернардынская вуліца (цяперашняя вул. Васі Крайняга). Гэты завулак яшчэ можна пабачыць на плане Слоніма 1934 года. Пры польскай уладзе ён меў назву 3 Мая.



**Сяргей Ёрш**

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

*КНІГАРНЯ*

# Кніга пра чатыры слонімскія вёскі




Аляксандр Місцюкевіч, наш зямляк, які жыве ў Гродне, выдаў краязнаўчую кнігу “Падарожжы па родных мясцінах. Піронім, Львоўшчына, Ісаевічы, Дзераўная” (Гродна, 2016). Ён працягнуў справу напісання кніг пра слонімскія вёскі, якую пачалі Васіль Ракуць, Аляксандр Талерчык, Мікалай Ракевіч, Сяргей Чыгрын. А пачалося ўсё з пошукаў звестак пра радавод, і там даследчыка чакалі неспадзяванкі.

Аляксандр Іванавіч расказвае, што спачатку вывучыў запісы, якія засталіся ад бацькі, пасля пайшоў у архівы. Там захавалася шмат матэрыялаў пра яго малую радзіму, якія ахопліваюць каля чатырох стагоддзяў. Восем гадоў Місцюкевіч вывучаў архіўныя справы, і не толькі ў Гродне, але і ў Мінску, Навагрудку.

Спачатку з’явіліся публікацыі пра гісторыю Пііроніма і наваколля ў мясцовым друку, а пасля напісалася і кніга. Аляксандр Іванавіч кажа, што не абышлося без невялікіх хібаў, не пра ўсё ён згадаў, а цяпер шкадуе. Спадзяемся, што дапоўніць сваю кнігу публікацыямі на старонках “СК”.

# Слонімскі краязнаўца напісаў кнігу пра Дзятлаўшчыну




Дзятлаўшчына гістарычна цесна звязана са Слонімшчынай. Таму не дзіўна, што слонімскі краязнаўца Сяргей Чыгрын часта піша пра яе. Ды не толькі піша, ён яшчэ і вандруе па ёй у пошуках звестак пра герояў сваіх публікацый. Кніга “На радзіме Ігната Дварчаніна: з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне”, якая сёлета выйшла ў мінскім выдавецтве “Кнігазбор”, сапраўдны падарунак жыхарам Дзятлаўскага раёна.

Аўтар малюе партрэты цікавых асобаў, якіх ужо няма сярод нас, і тых, хто з’яўляецца нашымі сучаснікамі. Піша цікава пра іх жыццё, пра творчасць, намагаецца адшукаць нешта новае, дагэтуль невядомае.

С. Чыгрын змясціў у кнізе і некалькі гутарак, якія, з аднаго боку, даюць каштоўны матэрыял для даследчыкаў, а з іншага — паказваюць, чым цяпер жыве Дзятлаўскі край і яго людзі.

Ёсць у кнізе і невялічкія хібы, пра якія таксама варта згадаць. Напрыклад, аўтар неаднаразова ў адным нарысе называе паэта Васіля Струменя і Аляксандрам Лебедзем, і Аляксандрам Лебедзевым (праўдзівы апошні варыянт). Не хапіла тут пільнага вока рэдактара. Ну і Сяргей Хмара паўдзельнічаў летам 1942 года ў стварэнні ў Слоніме брыгады Беларускай Самаахoвы, а не Беларускай Самапомачы (першая — вайсковая арганізацыя, другая — грамадская).

Шкада, што многія кнігі краязнаўцаў апошнім часам выдаюцца маленькімі накладамі. Вось і “На радзіме Ігната Дварчаніна...” надрукавана толькі 99 асобнікаў. Не кожная бібліятэка яе здолее здабыць. Надзея толькі на інтэрнэт, што там з часам з’явіцца гэтая цікавая кніга.

**Генадзь Гурскі**

*ХРОНІКА*

11 чэрвеня ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна адбылося традыцыйнае ўшанаванне памяці героя вызваленчага паўстання Міхала Валовіча і яго паплечнікаў. Прыехалі не толькі слонімцы (актывісты грамадскіх і палітычных нацыянальных арганізацый), але і госці з іншых гарадоў, у тым ліку і са сталіцы.




***

З 17 чэрвеня на сайце раённай газеты “Слонімскі веснік” праходзіць анлайн-галасаванне — выбіраецца месца ў горадзе для скульптурнай кампазіцыі Льва Сапегі. З прапанаваных варыянтаў лідыруюць сквер на плошчы Леніна і плошча Сапегі. Таксама арганізаваны збор сродкаў на помнік.

***

У Слоніме адзначылі Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны (22 чэрвеня). Спачатку з удзелам кіраўніцтва раёна адбыўся мітынг каля Вечнага агню, пасля на малым канале Агінскага ўшанавалі памяць загінулых — апусцілі на ваду асвечаныя праваслаўным святаром вянкі. Пра ваенныя падзеі на Слонімшчыне прысутным распавёў журналіст і краязнаўца Васіль Афанасік.



*Старыя фотаздымкі*

# Як гарэў Слонім у 1915 годзе

204 1916 НИВА 1916 № 12.



Городъ Слонимъ въ огнѣ.

Какъ-то заѣхалъ я въ одинъ изъ полковъ, стоявшихъ въ резервѣ на Пинскихъ болотахъ. Полкъ этотъ расположился въ землянкахъ, построенныхъ около самой деревни; дальше было болото, и не было никакой возможности устроить тамъ городки. Пріѣхалъ я въ полкъ подъ вечеръ и прошелъ прямо въ ротныя землянки. Тутъ я засталъ жизнь въ томъ самомъ видѣ, какъ она протекаетъ обычно, въ отсутствіе начальства и постороннихъ. Люди только-что вернулись съ занятій и пили чай. На дворѣ уже стемнѣло, и въ землянкахъ царилъ полумракъ. Кое-гдѣ теплилась свѣчка, бросая желтоватые блики на лица сидящихъ кругомъ солдатъ; все остальное пространство землянки тонуло во мракѣ. Большая часть обитателей землянки сгрудилась у печки, на которой шипѣлъ большой, почернѣвшій отъ времени чайникъ съ кипяткомъ. Люди были въ шинеляхъ, фуражкахъ и грязныхъ сапогахъ. Земляной полъ былъ мягкій, зыбкій, мѣ-

У мінулым нумары “СК” Васіль Герасімчык згадаў пажар пачатку верасня 1915 года падчас баёў паміж рускімі і нямецкімі войскамі, які знішчыў Замосце ў Слоніме.[1] Вядомы здымак таго пажару, у сакавіку 1916 года ён друкаваўся ў рускім ілюстраваным часопісе літаратуры і сучаснага жыцця “Нива” (Петраград). Спецыяльны ваенны карэспандэнт так пракаментаваў фота з подпісам “Горад Слонім у агні”: “Так быў спалены імі [немцамі] горад Слонім, ад якога не засталося і сляда. Нашым разведчыкам удавалася патрапіць туды, і яны гаварылі, што замест горада ляжаць толькі груды попелу”.[2] Адзначым, што пацярпела правабярэжжа, на левабярэжжы Слонім ацалеў. Немцы, дарэчы, на сваіх слонімскіх паштоўках пасля пісалі, што Замосце разбурылі рускія войскі.

Выбітыя з горада, рускія непрацяглы час трымалі лінію абароны на ўсход і поўнач ад Слоніма. Сляды акопаў каля вёскі Талькаўшчына захаваліся да нашага часу.[3]

Замосце працягвала ляжаць у руінах яшчэ некалькі гадоў. Разбітыя падчас артылерыйскіх абстрэлаў і спаленыя падчас пажараў дамы аднаўляліся марудна. Касцёл св. Андрэя быў рэканструяваны толькі ў другой палове 1920-х, паколькі не хапала сродкаў.

**СЁ**

1. Герасімчык В. Вялікія слонімскія пажары // Слонімскі край, 2016, № 5, чэрвень, с. 15.
2. Отъ Ставки Верховнаго Вождя до передовыхъ окоповъ (Отъ нашего спеціальнаго военнаго корреспондента). Полковника Г. П. // Нива, 1916, № 12, 19 сакавіка, с. 206.
3. Шумель В. Под Слонимом остались окопы первой мировой // Газета Слонімская, 2015, № 37, 9 верасня, с. 7.

# Пра слонімскіх фальшываманетчыкаў 1930-х гадоў

У 1930-я гады практычна ў кожным раёне Заходняй Беларусі польскай паліцыі даводзілася займацца справамі фашываманетчыкаў. Мясцовыя жыхары падраблялі і манеты, і банкноты. У студзені 1932 года былі такія выпадкі ў Навагрудку і ў Валожынскім раёне. Нехта Мойша Ляйбовіч на навагрудскай пошце аплаціў тэлеграму дзвюма адназлотавымі манетамі, якія аказаліся фальшывымі, яго затрымалі.[1] А токар з завода Язэп Галаўня меў “машынку для вырабу адназлотавых манет”. Яго злавілі ў вёсцы Камень пры спробе расплаціцца фальшыўкай.[2]

Восенню 1933 года следчы аддзел паліцыі ў Слоніме расследаваў справу фальшываманетчыкаў з Дзятлаўшчыны. Вясковец Ян Лабар падчас кавальскай практыкі ў в. Лядзіны падрабіў 50-грашовыя манеты і запусціў іх у абарот, што было выкрыта. Манеты ў яго атрымліваліся “даволі добрай якасці”.[3]




Гісторыю, якая датычыла непасрэдна Слоніма, пашчасціла пачуць у 1999 годзе ад слонімца Бекіра Раманавіча Радэцкага. У міжваенны час на Рыбацкай вуліцы ці ў Мокрым завулку (цяпер гэта вуліца Давідзюк) жыў нехта Роўба. Ён, нібыта, уваходзіў у нелегальную нямецкую разведвальную сетку, якая дзейнічала ў тагачаснай Польшчы. Праз яе разам з супольнікамі атрымліваў спецыяльную паперу (прывозілі яе ў чамаданах з Гродна ці з-пад Варшавы) і на станку друкаваў фальшывыя польскія банкноты. Правал адбыўся з-за жонкі Роўбы, каталічкі. Звярнулі ўвагу на тое, што яна ў касцёле рэгулярна ахвяравала значныя сумы (па 10-20 злотых). Роўба на допытах распавёў усё, што ведаў пра нелегальную сетку, прайшлі арышты. Слонімец атрымаў 5 гадоў зняволення. Падчас нямецкай акупацыі ён працаваў перакладчыкам, стаў “фольксдойчам”. Але ўжо праз некалькі месяцаў знік, нібыта, быў пакараны за ўнёсак у разгром нямецкай разведвальнай сеткі.[4]

11 сакавіка 1937 года Гродзенскі акруговы суд на выязным паседжанні ў Слоніме вынес прысуд па справе фальшываманетчыкаў з вёскі Вострава. Гаворка пра вёску, якая ў той час уваходзіла ў гміну Старая Весь Слонімскага павета, цяпер — у Галынкаўскім сельсавеце

## Wilnianie skazani za fałszowanie 100-złotówek

**SLONIM.** Dnia 11 b. m. Sąd Okręgowy w Grodnie na sesji wyjazdowej w Słonimie, rozpatrywał sprawę mieszkańców wsi Ostrowo, gm. starowiejskiej, pow. słonimskiego, mianowicie Sergjusza Łamieki, abiturjenta gimnazjum białoruskiego w Wilnie i jego ojca, Mikołaja Łamieki, oskarżonych o to, że podrabiali odręcznie i puszczali w obieg banknoty 100-złotowe.

Sąd wydał wyrok skazujący Sergjusza Łamiekę na 7 lat więzienia i 900 zł. grzywny, a Mikołaja Łamiekę na 3 lata więzienia i grzywnę w wysokości zł. 300. Ponadto obaj skazani zostali na pozbawienie praw publicznych i obywatelskich na przeciąg lat 5. Obaj do winy przyznali się.

*Зацемка ў газеце “Навагрудскі кур’ер”.*

Зэльвенскага раёна. Сяргей Ламека і яго бацька Мікалай былі прызнаныя вінаватымі ў вырабе  і распаўсюдзе 100-злотавых банкнот. Сяргей, дарэчы, выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, атрымаў 7 гадоў турмы і штраф — 900 злотых, Мікалай Ламека — 3 гады турмы і штраф — 300 злотых. Сваю віну яны прызналі.[5]

У траўні 1937 года паліцыя




*100 злотых узору 1932 года*

расследавала справу жыхара вёскі Трыбушкі (цяпер — Мірная) Дзевяткаўскай гміны Сямёна Мышко. На Гандлёвым пляцы ў Слоніме ён паказваў суразмоўцам фальшывую 5-злотавую манету і сцвярджаў, што атрымаў яе ад знаёмага яўрэя “на закуп піва”.[6] Чым скончылася гэтая справа, невядома.

Слонімцы не толькі падраблялі грошы, але і дакументы. У красавіку 1937 года ў Слоніме прайшоў суд над групай жыхароў Шылавіцкай гміны. Іх абвінавачвалі ў фальшаванні і выкарыстанні квітанцый слонімскага тартака Езерскага. У выніку, сяляне некалькі разоў атрымлівалі грошы за адно і тое ж прывезенае дрэва, а часам і за непрывезенае! Уладзімір Лазюк быў асуджаны на год турмы. Цэлая група вяскоўцаў (Яўхім Пятрашка, Ян Грыпіч, Антон Грыпіч, Гальяш Астапчык і іншыя) атрымалі па 8 месяцаў зняволення ўмоўна.

**Сяргей Ёрш**

---

1. Kurjer Nowogródzki, 1932, № 2, 5 студзеня.
2. Kurjer Nowogródzki, 1932, № 21, 27 студзеня.
3. Ёрш С. Дзятлаўскія фальшываманетчыкі // Перамога (Дзятлава), 2016, № 11, 13 лютага.
4. Ёрш С. Слонімскія фальшываманетчыкі // Газета Слонімская, 1999, № 26 (107), 24-30 чэрвеня.
5. Kurjer Nowogródzki, 1937, № 72, 14 сакавіка.
6. Kurjer Nowogródzki, 1937, № 140а, 23 траўня.
7. Kurjer Nowogródzki, 1937, № 112, 25 красавіка.

## *Пра слонімскага іканапісца Шорахава*

Гартаючы старонкі віленскіх «Литовских епархиальных ведомостей» за 1888 год, натрапіў на прозвішча невядомага слонімскага мастака. Вось што пісала выданне 6 лістапада у № 45 у рубрыцы «Местные известия»:

“У справаздачы Яго Прэасвяшчэнства Анастасія, епіскапа Брэсцкага, аб рэвізіі цэркваў Брэсцкага, Бельскага і Беластоцкага паветаў, між іншым, выкладзена: У некаторых цэрквах новыя іконы, напісаныя слонімскім жывапісцам Шорахавым. Ён, гавораць, вельмі танна бярэ за сваю працу, чым, здаецца, і прыцягвае да яго звароты з замовамі; але ўсе гэтыя танныя іконы Шорахава, якія бачыў Яго Прэасвяшчэнства, напісаныя так кепска, што варта было б забараніць духавенству звяртацца з замовамі да гэтага кепскага майстра дзеля таннасці. Можна было б парэкамендаваць духавенству віленскага жывапісца Малокіна... Яго Прэасвяшчэнству даводзілася бачыць шмат ікон яго работы, напісаных прыстойна, нярэдка нават і па-мастацку, і ўсё гэта — па цэнах вельмі памяркоўных, не значных і для небагатых прыходаў”.

Хто ж гэты слонімскі жывапісец Шорахаў? Найхутчэй гэта быў не мясцовы жыхар. З XVIII стагоддзя ва Уладзімірскай губерні Расіі быў вядомы сялянскі род іканапісцаў Шорахавых. У 1870-я гады дзейнічаў Іван Шорахаў з двума братамі. Іх запрашалі распісваць храмы ў суседнія губерні. Магчыма, што хтосьці з братоў (не выключана, што сын аднаго з іх) і прыехаў у Слонім (на радзіме Шорахавым стала “цеснавата”).

Пра згаданага мастака Георгія Малокіна вядома мала: паходзіў з сялян, з Цвярской губерні Расіі, у Вільні з’явіўся не пазней за 1880 год, памёр у 1905-м. Яго 20-гадовага сына Георгія ў канцы 1920-га ў Ялце расстралялі бальшавікі. Іншы сын, Аляксандр, стаў вядомым савецкім архітэктарам. А вось пра лёс слонімскага Шорахава нам пакуль нічога невядома.

**СЁ**

# Храм канонікаў-латэран



*Дрэварыт пачатку XIX ст.*

Трыццаць гадоў вуліца Першамайская на паўночным захадзе ўпіралася ў пустэчу. Зараз на гэтым месцы знаходзіцца Спаса-Праабражэнскі сабор. Але менавіта на гэтым месцы больш за тры з паловай стагоддзі таму пачалося будаўніцтва каталіцкага храма ордэна канонікаў-латэран, рэшткі якога былі ўзарваныя ў 1963 годзе ў сувязі з рэалізацыяй генеральнага плана перабудовы горада.

У 1650 годзе ў Слоніме быў закладзены касцёл "Божага Цела" ордэна канонікаў-латэран, а праз тры гады пачалі будаваць кляштар. Італьянскі архітэктар выбраў правобразам касцёла рымскі храм Іль Джэзы. Ён меў форму лацінскага крыжа і ўнутры нагадваў бернардынскі. Храм размяшчаўся на ўзвышшы ў месцы злучэння трох вуліц і вылучаўся масіўным выцягнутым прэсбітэрыюмам, што дапаўнялася барочнымі элементамі і абразамі таленавітага жывапісца Францішка Смуглевіча.

Сродкі на яго будаўніцтва выдзеліў падканцлер ВКЛ Казімір Леў Сапега, сын Льва Сапегі, які праславіўся заключэннем выгаднай для Княства дамовы з Маскоўскай дзяржавай падчас Смаленскай вайны (1632-1634) і спансіраваннем каталіцкіх ардэноў, сярод якіх былі картэзіяне і канонікі-латэране. Памылкова фундатарства пабудовы храма прыпісваюць іншаму сыну Льва Сапегі, маршалку ВКЛ Яну Станіславу, які памёр у 1635 годзе.

Устаўныя канонікі-латэране — адна з найбольш старажытных форм арганізацыі манаскага жыцця рымска-каталіцкай царквы. Яны не маюць сваіх заснавальнікаў, як іншыя ордэны, а іх з'яўленне звязана з Латэранскім Сінодам (1059 г.), падчас якога была зроблена адна з першых спроб барацьбы каталіцкай царквы з тымі працэсамі, якія сталі ў далейшым прычынамі Рэфармацыі. Прадстаўнікі кліра, якія прынялі яго пастановы ў накірунку вяртання царквы на шлях жыцця Апосталаў і сталі практычна іх ажыццяўляць, атрымалі назву "Рэгулярныя канонікі" (або устаўныя). Яны вялі аскетычны вобраз жыцця, што выклікала ў міран пачуццё павагі і ўзнікненне ў многіх рэгіёнах вялікай колькасці падначаленых ім храмаў. Самыя важныя з іх – базіліка св. Іаана Латэрана; Зальцбург і Гурк у Аўстрыіі; Сарагоса і Памплона ў Іспаніі; Памп'е і Камінжы ў Францыі. У 17 ст. з'явіліся яны і на Беларусі, а на 1772 год ў Віленскай дыяцэзіі дзейнічала 5 кляштараў канонікаў-латэран.

Ордэн ніколі не быў пад цэнтральным кіраўніцтвам, асобныя капітулы існавалі як асобныя аўтаномныя адзінкі. З цягам часу было заведзена, што кожны рэгулярны канонік належаў да таго дома, дзе ён даваў свае зарокі, але яго можна было перавесці ў другі дом у інтарэсах агульнай карысці ордэна ці па любой іншай сур'ёзнай прычыне. У той жа час ён працягваў адносіцца да свайго манастыра. Канонікі-латэране насілі белае адзенне, "каб не змешвацца з міранамі".

Пры кляштары ў Слоніме дзейнічаў шпіталь, якому кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір дараваў права атрымання мастовага збору ў горадзе.

Вялікую ўвагу ордэн надаваў адукацыі. Так, у XVIII стагоддзі ў Слоніме пры манастыры канонікаў-латэран дзейнічала школа, дзе па праграме езуітаў навучаўся 71 вучань. А пасля закрыцця езуіцкай рэзідэнцыі, яе плошчы таксама патрапілі да ордэна.

У 1843 годзе касцёл "Божага Цела" быў скасаваны і перададзены праваслаўнай царкве. У 1846 годзе ў ім пачаў дзейнічаць Спаса-Праабражэнскі сабор, назва якога была перанесена ад згарэлай драўлянай царквы 16 ст., якая месцілася недалёка. Дах паменшылі і дабудавалі 4 вежкі, але храм захаваў свой барочны характар. На месцы разабранага кляштара паўстаў гарадскі парк. А канонікі-латэране пакінулі горад.



*Сабор па вуліцы Пушкіна ў чэрвені 1941 года.*
*Фота Бандалоўскага В.П.*

У 1941 годзе падчас чэрвеньскіх баёў храм быў пашкоджаны: абваліўся купал, была разбурана званіца. Складзены археолагам Язэпам Стаброўскім план па адбудове сабора не атрымаў падтрымкі ў колах грамадскасці, а спробы аднавіць у ім працу ў перыяд нямецкай акупацыі не былі рэалізаваны. Канчаткова яго рэшткі ўзарваны 53 гады таму. Больш за тры дзесяцігоддзі гэтае месца пуставала, пакуль у 1994 годзе не пачалося будаўніцтва праваслаўнага храма. 20 траўня 2002 года, падчас свята Жыровіцкага абраза Божай Маці, яшчэ недабудаваны храм наведаў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій. Будаўніцтва сабора было завершана ў 2005 годзе.

А памяць пра ордэн канонікаў-латэран на зямлі нашай Бацькаўшчыны занеслі векавыя пяскі гісторыі.

**Васіль Герасімчык**

З АРХІВАЎ

# Дакумент пра сустрэчу прадстаўнікоў савецкіх партызан і польскага падполля ў 1943 годзе на Слонімшчыне

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь намі было выяўлена некалькі дакументаў пра польскае падполле на Слонімшчыне падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. Разведка савецкіх партызан збірала пра яго інфармацыю, у адным з данясенняў адзначалася, што польскіх канспіратараў падтрымлівае і гатова далучыцца да ўзброенай барацьбы 5% беларускага праваслаўнага насельніцтва. У іншым дакуменце пералічваліся актыўныя ўдзельнікі польскай нелегальнай арганізацыі ў Азярніцы, Плаўскіх, Сялявічах (у апошняй вёсцы ў арганізацыі налічвалася 11 чалавек).



Вёска Багданавічы на польскай карце 1937 года

Змяшчаем дакумент пра сустрэчу прадстаўнікоў савецкіх партызан і польскага падполля, якая адбылася ў снежні 1943 года ў Слонімскім раёне. Польскі бок прадстаўляў паручнік (па іншых звестках — падпаручнік) Войцех Корчыц. Ён паходзіў з той жа вёскі Багданавічы, што і наш зямляк, вядомы савецкі і польскі генерал Уладзіслаў Корчыц (1893 — 1966). Магчыма, яны былі сваякамі. У адным з данясенняў разведкі савецкіх партызанаў згадваецца, што восенню 1939 года брата Корчыца, які быў войтам гміны, забілі "беларускія нац[ыянальныя] гвардзейцы" (г. зн. камуністы і іх прыхільнікі, якія ўзброіліся і зводзілі рахункі з прадстаўнікамі польскай улады ў перыяд безуладдзя). Сам Корчыц здолеў уцячы ў Варшаву, вярнуўся ён у сваю вёску падчас нямецкай акупацыі.

Дакумент пра перамовы друкуецца ў перакладзе з рускай мовы, з купюрамі. Звяртае ўвагу тое, як шчыра размаўляе з прадстаўніком савецкіх партызанаў Войцех Корчыц. Сустрэча адбывалася ўжо пасля таго, як у красавіку-лістападзе 1943 года ў розных раёнах Заходняй Беларусі савецкія партызаны разззброілі шэраг польскіх падпольных груп і партызанскіх атрадаў, а частку іх удзельнікаў расстралялі. Факты такіх расстрэлаў вядомыя і на Слонімшчыне.[1] Пра іх мог ведаць і Корчыц, але быў вымушаны пагадзіцца на сустрэчу з савецкімі партызанамі, якія даведаліся ад сваёй агентуры пра яго падпольную дзейнасць. Нам невядома, як яна адбывалася. Дакумент складзены такім чынам, што нагадвае допыт. Для Войцеха Корчыца аднак той кантакт з лейтэнантам Рыгіным мог скончыцца трагічна. Звычайна дэканспіраваных перад савецкімі партызанамі ўдзельнікаў польскага падполля перапраўлялі ў суседнія рэгіёны, дзе дзейнічалі польскія партызанскія атрады (Лідчына, раён Налібоцкай пушчы). На Слонімшчыне лясныя атрады польскае падполле не арганізоўвала, каб пазбегнуць сутычак з моцным савецкім партызанскім рухам.[2]

У жніўні 1944 года Корчыц быў на нелегальным становішчы, ім быў арганізаваны на поўдні Слонімскага раёна антысавецкі партызанскі атрад, які налічваў каля 50 чалавек. Таксама ён кіраваў польскім падполлем у раёне дзеяння атрада. Атрад Войцеха Корчыца быў разбіты войскамі НКВД у лютым 1945 года. Пазней Ружанскім раённым аддзелам НКВД быў арыштаваны і сам Корчыц. Яго далейшы лёс невядомы.[3]

**Сяргей Ёрш**

Сакрэтна.

## Матэрыялы сустрэчы з польскім афіцэрам Корчыц

10.12.[19]43 г. у вёсцы **Багданавічы** Слонімскага раёна я правёў сустрэчу з былым польскім афіцэрам /цяпер — чалец падпольнай польскай арганізацыі/ **Корчыц**.

На сустрэчы высвятляў наступныя пытанні:

1/ Становішча за Бугам. [...]

2/. Сітуацыя ў г. Слоніме на

9.12.[19]43 г. [...]

3/. Дадзеныя пра арганізацыю палякаў у раёне г. Слоніма.

**Маё пытанне.** Ці думае польскі народ арганізоўвацца для ба[р]ацьбы з немцамі.

**Адказ.** Польскі народ арганізаваны і трымае непасрэдную сувязь з Варшавай праз пасыльных. Указанні, распараджэнні, загады і літаратуру атрымліваем з Варшавы.

Вясной 1943 г. нямецкімі ўладамі /Слонімскі Гібіт/ была арыштавана і расстраляна вярхушка польскай арганізацыі.

Пасля гэтага сувязь з Варшавай перарвалася, але спадзяемся, у патрэбны момант, сувязь будзе адноўлена.

Цяжкасці ў працы вельмі вялікія, паколькі палякі ў нашым раёне разрознены хутарской сістэмай па жыхарстве, плюс да гэтага на тэрыторыі Слонімскай акругі палякаў нязначная колькасць.

Узбраенне ёсць, але недастаткова. Калі запатрабуецца — выступім.

**Маё пытанне.** Ці хоча польскі народ сумесна, але прыхавана, з партызанамі змагацца супраць немцаў у цяперашні момант.

**Адказ.** Пра гэта я нічога не скажу. Пагавару з народам, адказ дам пазней, думаю, што сярод нас знойдуцца добрыя падрыўнікі, дыверсанты для сумеснай барацьбы з вамі супраць немцаў. Наш народ ніколі не адлучыцца ад польскага народу за Бугам.

**Маё пытанне.** Як глядзіць польскі народ на партызан.

**Адказ.** Партызаны — з'ява нармальная. Падчас вайны яны неабходны. Што датычыць, што партызаны бяруць у насельніцтва абутак, вопратку, прадукты, польскі народ на гэта не крыўдуе. Палякі ведаюць, што партызаны не маюць базаў і яны павінны браць прадукты, абутак, вопратку толькі ад насельніцтва.

Але партызаны мясцовыя-беларусы на глебе старых асабістых рахункаў, па намове сваіх сваякоў, апошнім часам сталі адносіцца да польскага насельніцтва кепска. У гэтых адносінах камандаванне партызанскіх атрадаў мы не вінавацім, а прыпісваем гэтыя "дзёрзкія выхадкі" асобным людзям-садзістам.

10.12.[19]43 г.

Пам. нач. штаба брыгады [імя Панамарэнкі]

па разведцы

лейтэнант /Рыгін/

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь*

1. Ситкевич С. Польское антисоветское подполье на Слонимщине в 1939-1953 годах // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Слонім, 2002, с. 312.

2. Krajewski, K. Na Ziemi Nowogródzkiej. "Nów" — Nowogródzki Okręg AK. —Warszawa, 1997, с. 351-352.

3. Na Ziemi Nowogródzkiej..., с. 668; Ёрш С. Аддзел Корчыца // Газета Слонімская, 1999, 23-29 снежня, № 52.

# *Жыровічы (урывак з кнігі М. Балінскага 1846 года)*



*Заканчэнне, пачатак у № 5.*

Трэцяя капліца пад назвай Св. Юрыя, пабудаваная з дрэва, уздымаецца на ўзгорку перад мястэчкам. Найвялікшае касцёльнае свята ў Жыровічах адбываецца 15 жніўня на Унебаўзяцце Панны Марыі, і ў той час збіраецца некалькі тысяч паломнікаў з усіх бакоў Літвы *(так у той час называлі Беларусь — ВГ)*. У манастырскім архіве захоўваецца кніга, у якой запісаныя найважнейшыя мясцовыя падзеі, наведванні знакамітых пілігрымаў, іх ахвяраванні і цуды, бачаныя рознымі асобамі.

Да тых апошніх залічваецца ўваскрасенне Рагіны Вайнянкі, дзяўчыны з заможнага роду. Бацькі пайшлі на моцную просьбу адвесці яе, смяротна хворую, са знясіленым доўгай хваробай целам і скорчанымі суставамі, у Жыровічы, для заступніцтва святой Багародзіцы. Тым часам яе напаткала смерць у дарозе і бацькі, знаходзячыся ў жалі, мёртвае цела дачкі прывезлі ў труне на катафалку. Правялі жалобны абход і праз тры дні пасля смерці, калі да магілы меліся несці памерлую, неспадзявана дзяўчына ўстала з труны. Прыведзеная ў пачуцці новым жыццём, яна пайшла да абраза Маці Божай, дзе ўпаўшы на калені, дзякавала за цудоўнае ўваскрашэнне. Удзячная Богу за такую асаблівую ласку, слухаючы аб'явы падчас спазнанага летаргічнага сну, прымае рашэнне пакінуць мірскі свет, і, узяўшы манаскі абет, прысвяціць сябе ў пінскім кляштары базыльянак службе алтару, дзе праз многія гады праведнага жыцця памерла.

Жыровіцкае мястэчка хоць і вельмі малое, аднак мае па прывілеях кірмашы: на святога Юрыя, на святога Яна і ў дзень апекі Панны Марыі. Назва цудоўнага абразу Найсвяцейшай Марыі Жыровіцкай, перанесеная была да іншага абраза Багародзіцы, які знаходзіцца ў Рыме ва ўніяцкім касцёле святых Сергія і Баха. Надаў тую святыню базыльянам у 1639 годзе, на заступніцтва кардынала Барберыні, Урбан VIII, кардынал жа зрабіўся яго сталым фундатарам. Знойдзеная каля 1719 года ў рызніцы намаляваная на сця-

не выява Найсвяцейшай Панны дакладна падобная на тую, якая знаходзіцца ў Жыровічах, змешчаная адразу ў бакавым алтары касцёла святых Сергія і Баха. Але пасля прыняцця кіраўніцтва базыльянскім сходам у Рыме праз князя Ігната Кульчынскага ў 1729 годзе, быў выстаўлены прыгожы мармуровы вялікі алтар, для якога гэты абраз Панны Марыі 29 кастрычніка таго ж года пры набажэнстве, праведзеным праз Фларыяна Грэбніцкага, уніяцкага біскупа полацкага, прынесены ў прысутнасці многіх жыхароў Рыму.

З таго часу рымскі люд пачаў той касцёл называць касцёлам Найсвятой Панны Марыі Жыровіцкай, della Madonna del Pascolo, таму што pascolo значыць на італьянскай мове пашня або жэр. Кульчынскі падчас свайго сэктарства выдаў у Рыме ў 1732 годзе гістарычнае апісанне цудаў жыровіцкіх абразоў, пад назваю “Jaspis cudowny” (у 1738-м кнігу перавыдалі ў Супраслі). Рэктарам таго касцёла ў Рыме ў 1794 гозе, а таксама пракуратарам кляштару базыльянаў пры апостальскай сталіцы быў ксёндз Джордан Міцкевіч, які мае найвялікшыя заслугі і не толькі найакуратным чынам утрымліваў у цэласці, але нават павялічваў першапачатковыя фундушы той установы, нягледзячы на шматлікія перашкоды і цяжкасці. Нарэшце, тут яшчэ належыць дадаць, што ў згаданым касцёле знаходзіцца пахаванне памерлага ў 1641 годзе ў Рыме мітрапаліта Рафала Корсака, арцыбіскупа кіеўскага і галіцкага.

**Пераклаў**
**Васіль Герасімчык**

# *Праект перайменавання слонімскіх вуліц, 1931 год*

Дакладна невядома, калі з’явіліся першыя назвы слонімскіх вуліц. Спачатку гэта былі неафіцыйныя назвы, якімі карысталіся месцічы. Пазней яны прыжыліся і ўжо траплялі ў афіцыйныя дакументы. Сярод самых старажытных — Спаская (пазней — Бернардынская, Банкавая, Васі Крайняга), Гандлёвая (цяпер — Першамайская), Маставая (Янкі Купалы), Замкавая (Камсамольская), Скрабаўская (пазней — Маскоўская, Жыровіцкая, 3-га Мая, Чырвонаармейская). Расійскія царскія, польскія, савецкія ўлады займаліся перайменаваннем, улічваючы свае інтарэсы — палітычныя, ідэалагічныя.

Нямала спрадвечных назваў дагэтуль не вернуты слонімскім вуліцам і гэта яшчэ трэба будзе зрабіць. У сённяшнія часы такое вяртанне малаверагоднае, пра што яскрава сведчыць гісторыя з вуліцай, якая дагэтуль носіць імя Войкава, забойцы царскай сям’і. Мала прыслухоўваліся да прапановаў аб перайменаванні вуліц і польскія ўлады ў міжваенны час. У пачатку 1920-х гадоў яны “сцерлі” з назваў слонімскіх вуліц усё царскае мінулае (праўда, не заўсёды вярталіся старажытныя назвы) ды ў далейшым не асабліва хацелі




*Цяперашняя вуліца Пушкіна ў Слоніме ў міжваенны час была вуліцай імя князя Панятоўскага. Фота Р. Вішняка, 1930-я гады*

нешта змяняць.

Восенню 1931 года з’явіўся цікавы праект слонімскага дэкана, ксяндза Ігнацыя Расалоўскага. Свае прапановы ён даслаў у гарадскі савет. Ксёндз Расалоўскі трымаўся думкі, што паколькі Слонім мае слаўную гісторыю, яе трэба шанаваць, берагчы, а яе важныя моманты мусяць быць адлюстраваны ў назвах вуліц. Ён прапаноўваў вуліцу Сянкевіча назваць Сапяжынскай. Адзначаў ролю князёў Сапегаў у гісторыі горада, у адрозненне ад славутага польскага пісьменніка. “Што мае супольнага са Слонімам “Бэрка Ёсілевіч”? — пытаўся аўтар праекту. Сапраўды, польскі палкоўнік яўрэйскага паходжання, удзельнік паўстання Касцюшкі, да Слонімшчыны не мае ніякага дачынення, але адна з вуліц атрымала яго імя (цяпер гэта вуліца Кузьмы Гнідаша). Кс. Расалоўскі прапаноўваў яе перайменаваць у Ягелонскую. Іншыя яго прапановы былі наступныя: вуліцу Міцкевіча назваць Каралеўскай, Уланскую — Гетманскай, Магістрацкую — Езуіцкай, частку Ружанскай (на Гандлёвай плошчы) — Дамініканскай, Міхайлоўскую — Бенедыктынак, Шасэйную перайменаваць на Гедыміна ці Міндоўга, Рэзкі І — на Горную, Крынічную ці Рачную.

“Kurjer Nowogródzki” (“Навагрудскі кур’ер”) у нумары ад 31 кастрычніка 1931 года не выключаў, што прапановы ксяндза стануць прадметам жывой дыскусіі на бліжэйшым пасяджэнні гарадского савета. Аднак, калі яны і разглядаліся, то не знайшлі падтрымкі. Гэта і не дзіўна. У савеце значны ўплыў мелі яўрэі. Дапусціць перайменавання вуліцы Бэрка Ёсілевіча яны не маглі.

**Сяргей Ёрш**

# Нямецкі генерал Гудэрыян двойчы мог загінуць на Слонімшчыне



*Генерал-палкоўнік Гудэрыян летам 1941 года*

22 чэрвеня 1941 года Германія напала на Савецкі Саюз. Ужо ўвечары 23 чэрвеня нямецкія войскі з'явіліся ў ваколіцах вёскі Азярніца, а раніцай наступнага дня пачаліся баі паблізу Слоніма. На наш горад наступала 2-я нямецкая танкавая група пад камандаваннем генерал-палкоўніка Хайнца Вільгельма Гудэрыяна (1888 — 1954), стваральніка танкавых войскаў Германіі. Пасля вайны ён напісаў мемуары "Успаміны салдата" ("Erinnerungen eines Soldaten"), у якіх згадвае некалькі эпізодаў, якія здарыліся на Слонімшчыне. Прапануем увазе чытачоў "СК" гэты ўрывак з успамінаў Гудэрыяна ў перакладзе на беларускую мову.

**Васіль Герасімчык**

24 чэрвеня [1941-га] ў 8 гадзін 25 хвілін я пакінуў свой камандны пункт і паехаў у кірунку да Слоніма. У гэты горад ужо ўвайшла 17-я танкавая дывізія. Але па дарозе ад Ружанаў у Слонім я натыкнуўся на рускую пяхоту, якая трымала пад агнём шашу, па якой павінна было ісці наступленне. Батарэя 17-й танкавай дывізіі і стралкі-матацыклісты, якія спешыліся, млява вялі на шашы агнявы бой. Я вымушаны быў умяшацца і агнём кулямёта з камандзірскага танка прымусіў праціўніка пакінуць свае пазіцыі. Цяпер я мог працягваць паездку. У 11 гадзін 30 хвілін я прыбыў на камандны пункт 17-й танкавай дывізіі, размешчаны на заходняй ускраіне Слоніма, дзе, акрамя камандзіра дывізіі генерала фон Арніма, я сустрэў камандзіра корпуса генерала Лемельзена.

Абмяркоўваючы, якое стварылася становішча, мы пачулі ў нашым тыле інтэнсіўны артылерыйскі і кулямётны агонь. Падпаленая грузавая аўтамашына замінала назіраць за шашою, якая ідзе з Беластока. Становішча было невыразным, пакуль з дыму не з'явіліся два рускія танкі. Ведучы інтэнсіўны агонь з гармат і кулямётаў, яны прабавалі прабіцца ў Слонім, праследуемыя нашымі танкамі T-IV, якія таксама інтэнсіўна стралялі. Рускія танкі выявілі нас. У некалькіх кроках ад месца нашага знаходжання разарвалася некалькі снарадаў: мы пазбавіліся магчымасці бачыць і чуць. Будучы дасведчанымі салдатамі, мы адразу ж кінуліся на зямлю, і толькі нязвыклы да вайны небарака падпалкоўнік Феллер, дасланы да нас камандуючым рэзервовай арміяй, зрабіў гэта недастаткова хутка і атрымаў вельмі непрыемнае раненне. Камандзір супрацьтанкавага дывізіёна падпалкоўнік Дальмер-Цербе атрымаў цяжкае раненне і праз некалькі дзён памёр. Гэтыя рускія танкі ўдалося знішчыць у горадзе.

Затым я агледзеў перадавыя пазіцыі ў Слоніме і паехаў на танку T-IV праз нейтральную паласу ў 18-ю танкавую дывізію. У 15 гадзін 30 хвілін я зноў быў у Слоніме, пасля таго як 18-я танкавая дывізія атрымала задачу наступаць у кірунку Баранавічаў, а 29-я мотадывізія — паскорыць прасоўванне ў кірунку Слоніма. Затым я паехаў назад на камандны пункт групы і раптам наскочыў на рускую пяхоту, якая на грузавых аўтамашынах была перакінута да Слоніма. Салдаты якраз збіраліся злазіць з машын. Кіроўца, які сядзеў побач са мной, атрымаў загад "Поўны газ", і мы праляцелі міма здзіўленых рускіх. Агаломшаныя такой нечаканай сустрэчай, яны



*Савецкі танк Т-34, адзін з тых, што атакавалі штаб Гудэрыяна, быў падбіты немцамі на Чырвонаармейскай вуліцы.*

не паспелі нават адкрыць агонь. Рускія, верагодна, пазналі мяне, бо іх прэса паведаміла потым пра маю смерць. Таму мяне папрасілі выправіць іх памылку праз нямецкае радыё.

# Першая кніга пра Слонім на беларускай мове




*Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983, 102 с., іл. Наклад 3500 асобнікаў.*

Гэтая выдатная кніга стала сапраўдным падарункам у дзяцінстве. З яе даведаўся пра гісторыю горада, пра яго выбітных асобаў, пра помнікі архітэктуры. Яна багата ілюстраваная: фотаздымкі, малюнкі, планы, схемы. Прайшло больш за 30 гадоў, а кніга па-ранейшаму карыстаецца попытам у даследчыкаў, у музейных работнікаў, у экскурсаводаў. Аўтары — Валянціна Караткевіч (жонка знакамітага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча) і Анатоль Кулагін — сабралі пад адну вокладку безліч цікавай інфармацыі. Да таго ж яны першыя, хто выдаў кнігу пра наш горад на беларускай мове!

У "Помніках Слоніма" змешчаны цікавы нарыс пра "гісторыка-архітэктурнае развіццё" горада. Згадваюцца найважнейшыя даты, падзеі, магнаты, якія кіравалі Слонімам. Але Караткевіч і Кулагін не змаглі разгадаць усіх таямніц слонімскай гісторыі. Напрыклад, не высветлілі, дзе ж знаходзілася першая, верагодна, драўляная ратуша. Але дапускалі, што на тым самым месцы, дзе пазней пабудавалі мураваную. Яны рэканструявалі цэнтр Слоніма паводле плана 1796 года, які адшукалі ў маскоўскім архіве. Шкада, што не апублікавалі яго цалкам. Пішучы пра дзейнасць Міхала Казіміра Агінскага, аўтары кнігі выкарысталі цудоўную манаграфію Анджэя Цеханавецкага, якая выйшла ў Заходняй Германіі ў 1961 годзе.

У другім раздзеле Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін прапануюць вандраваць разам з імі па вуліцах і плошчах горада (а таксама Жыровічаў). І яны паслядоўна распавядаюць пра архітэктурныя помнікі на кожнай з іх, змяшчаюць ілюстрацыі. Атрымліваецца вельмі цікава. "Вывучэнне роднай спадчыны ўзбагачае духоўныя сілы грамадства, яго патрыятычныя пачуцці і маральныя якасці", — пішуць аўтары. Ім, дарэчы, давялося аддаць даніну таму часу — згадваць пра "марксісцка-ленінскі светапогляд", "камуністычнае выхаванне". Але атрымалася гэта зрабіць мінімальна, амаль не заўважна для чытача.

Некаторых помнікаў, пра якія распавядае кніга, ужо няма. Караткевіч і Кулагін падрабязна напісалі пра гарадскія асабнякі 1923 года каля скрыжавання вуліц Савецкай і Чкалава, змясцілі здымкі, планы будынкаў. На жаль, у 2000-я іх знішчылі. Не ўсе ведаюць, што ў адным з асабнякоў у канцы 1990-х здымаўся эпізод папулярнага фільма "У жніўні 1944-га".

Варта адзначыць, што не пра ўсе помнікі архітэктуры ў Слоніме напісалі аўтары. Магчыма, гэта і не іх віна, магчыма, ім проста не дазволілі. Напрыклад, яны згадалі пра касцёл на вуліцы Войкава (былой Касцёльнай), але нічога не напісалі пра былую ўніяцкую царкву і кляштар, якія знаходзяцца побач (цяпер — праваслаўная царква і інтэрнат). Ні слова ў кнізе не сказана пра праваслаўную царкву Аляксандра Неўскага, пабудаваную ў пачатку XX стагоддзя каля казармаў па сучаснай Чырвонаармейскай вуліцы. У савецкія часы яна была да непазнавальнасці перабудаваная "пад патрэбы ваеннай часці".

Валянціна Караткевіч, на жаль, не патрымала сваю кнігу ў руках. Яе не стала яшчэ да выхаду "Помнікаў Слоніма" з друку. Але яе праца да сённяшняга дня застаецца эталонам.

**Сяргей Ёрш**

*Слонімскія краязнаўцы*

## Іван Карповіч

На 1 ліпеня прыпадаюць 80-я ўгодкі з дня нараджэння Івана Карповіча, слонімскага паэта, педагога, краязнаўца.

Ён нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Зарытава ў Ляхавіцкім раёне ў сялянскай сям'і. Скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, пазней — Гродзенскі педінстытут, служыў на Балтыйскім флоце. Лёс прывёў яго ў Слонім. Карповіч працаваў настаўнікам рускай мовы, дырэктарам школы, намеснікам дырэктара медцынскай вучэльні. Ужо пасля выхаду на пенсію кіраваў музеем у СШ № 10, працаваў з вучнёўскай моладзю, далучаў яе да краязнаўства.

У сталым узросце стаў пісаць вершы, прычым на беларускай мове. Выступаў у друку з краязнаўчымі артыкуламі, пісаў у абарону беларускай мовы. Іван Карповіч быў сябрам Таварыства беларускай мовы, адным з заснавальнікаў грамадскага аб'яднання "Ветэраны Адраджэння".

Памёр Карповіч 8 студзеня 2002 года.

**СЁ**

З АРХІВАЎ

# Рукапіс Язэпа Стаброўскага пра паходжанне назвы Слоніма



*Язэп Стаброўскі*

*Заканчэнне. Пачатак у № 5*

Яшчэ цяжэй высветліць, калі “Чорная Русь” стала называцца “Беларуссю”.

У 1158 г. Андрэй Багалюбскі ўпершыню згадвае пра “Белую Русь” і адносіць гэтую назву да Русі Паўночнай.

Гісторык У. Б. Антановіч у працы “Нарыс Вялікага княства Літоўскага” (Кіеў, 1878) сцвярджае, што “Чорная Русь” з гарадамі Навагрудкам, Здзітавым, Гроднам, Ваўкавыскам і Слонімам да паловы XIV стагоддзя называлася “Чорнай Руссю-Крывіцкай”.

Гісторык Ліндэ сцвярджае, што Беларуссю называлася частка Чорнай Русі, якая належала Маскоўскай дзяржаве, а Чорнай Руссю лічылася частка, якая належала Літве.

Аўтар працы “Заўвагі пра Польшчу і палякаў” (Observations sur la Pologne et les Polonais. — Paris, 1827) засведчвае, што Польшча, пасля другога падзелу, губляе частку, якая называецца “Чорнай Руссю” — значыць, да канца XVIII ст. землі на ўсход ад Нясвіжу яшчэ называліся “Чорнай Руссю”.

**Хрышчэнне Чорнай Русі**

Хрысціянства ўсходняга абраду пранікла ў Крывіц[кія] землі з Візантыі, Балгарыі і Сербіі яшчэ задоўга да афіцыйнага хрышчэння, але не было выкарыстана для дзяржаўных мэтаў.

Падчас хрышчэння Кіеўскай Русі ў 988 годзе Слонім знаходзіўся ў валоданні Кіеўскага князя Уладзіміра Яраславіча.

У адпаведнасці з летапісам “Аповесці мінулых гадоў”, у 983 годзе князь Уладзімір, мяркуючы адабраць юнакоў і дзяўчат для ахвярапрынашэнняў, задумаў кідаць жэрабя. Жэрабя выпала на маладога варага-хрысціяніна, які аказаў супраціўленне і быў забіты ў сутычцы. Царква адзначае гэтую падзею 12 ліпеня. Зразумела, што 12 ліпеня г. зн. за 8 дзён да ўрачыстасці хрышчэння яшчэ выбіралі ахвяру для грознага “Перуна” (Акад[емик] Б. Рыбаков. Календарь древних славян // Наука и жизнь, 1962, № 9).

У тым жа 988 годзе паміж князем Уладзімірам і Візантыйскай імперыяй быў заключаны саюз, які меркавалі змацаваць хрышчэннем князя і ўсяго рускага народа, а таксама і шлюбам кіеўскага князя з грэцкай царэўнай Ганнай [у 989-м].

Перад прыняццём хрысціянства князь Уладзімір адпусціў адну са сваіх чатырох жонак, былую князёўну Полацкую, якую ўзяў сабе ў жонкі гвалтоўна — Рагнеду з сынам Ізяславам у Крыўскую зямлю.

Цікава выкладзена ў “Друкаваным летапісе Нестаравым” размова Уладзіміра з Рагнедай падчас развітання: *“Аз убо отныне крещен есмь, и приях веру и закон христианский, подобаше ми едину жену имети, ею же поях в христианстве. Избери убо себе от велмож моих, его же хощеши, да сочетаю тя ему”. Она же отвещавши, рече ему: “Или ты един хощеши царствие небесное восприати, а мне маловременным сим и будущаго дати не хощеши. Ты бо отступи от идолскыя прелести в сыновление Божие, аз же, быв царицею, не хощу раба быти земному цару, ни князю, но уневеститися хощу Христови, и восприму аггельский образ”.*

Рагнеда памерла манахіняй [у 1000-м годзе] у Заслаўскім манастыры пад імем Анастасіі.

Па прыбыцці на радзіму, Рагнеда аб’явіла хрысціянства [неразборліва] верай і пачала, не без некаторага гвалту, хрысціць крывічоў і яцвягаў, што прыпадае на 990 год. Тады ж былі асноўныя епіскапаты: у Тураве, Полацку і Смаленску. Тураўскі князь, сын Уладзіміра Святаполк адначасова з хрышчэннем Русі стаў хрысціць тураўцаў, пры дапамозе нямецкага епіскапа Рэйнберга ў лацінства. Даведаўшыся пра гэта, Уладзімір напаў на Тураў, узяў у палон Святаполка і Рэйнберга, а тураўцаў перахрысціў па ўсходнім абрадзе.

Уладзімір Святаславіч памёр у 1015 годзе.

Прыняццё хрысціянства мела вялізны ўплыў у жыцці Кіеўскай Русі і Зямлі Крыўскай. Яно садзейнічала распаўсюду сярод славян больш высокай візантыйскай культуры, аб’яднанню ўсіх славянскіх плямёнаў і ўзмацненню княжацкай улады. Устанавіліся больш цесныя сувязі з дзяржавамі Заходняй Еўропы — Чэхіяй, Польшчай і Венгрыяй. Стала распаўсюджвацца асвета.

Увядзенне хрысціянства суправаджалася знішчэннем ідалаў і паганскіх рэлігійных абрадаў, што ў сваю чаргу выклікала ў ідалапаклоннікаў неабходнасць хаваць сваіх багоў ад апаганьвання.

Адзін з такіх ідалаў, у выглядзе чалавечай галавы, быў знойдзены на выгане г. Слоніма пры

капанні катлавана пад будаўніцтва дома на Альбярцінскай вуліцы, якую наноў праводзілі.

Недалёка ад Шчары ў наваколлі Слоніма ёсць урочышча пад назвай Бажымаў (Божая мова). Мясцовасць гэтая гарыстая, на ёй растуць дубы, яна вельмі маляўнічая. Верагодна яна была месцам, дзе знаходзілася паганскае капішча.

Другім такім месцам, дзе быў знойдзены іншы ідал у выглядзе трохграневага пяшчаніку, на гранях якога абазначаны асабовыя выявы. Гэта хутар Багуслаўцы (Бога славіць) Пружанскага раёна. Бажымоўскі ідал захоўваецца ў Слонімскім гістар[ычным] краяз[наўчым] музеі, а Багуслаўскі ў 1915 г. пляменнікам пісьменніка Крашэўскага Багуславам Крашэўскім вывезены ў Варшаву, а дзе ён цяпер — невядома.

***

Археалагічныя раскопкі, праведзеныя на тэрыторыі верхняга замку ў Слоніме ў 1959 годзе з ініцыятывы музея (апісанне — у газеце “Советская Белоруссия”, 1960, № 170) сведчаць, што ў XI-XIII ст.ст. замак меў значэнне выключна гаспадарчае і ніякіх прадметаў ваеннага рыштунку знойдзена не было.

Так, ва ўсіх пластах зямлі знойдзены рэшткі руды і шлакаў, што сведчыць пра кавальскую вытворчасць. Знойдзена шмат прадметаў ткацтва, дрэваапрацоўкі, касцярэзнай і гарбарнай вытворчасці. Знойдзены верацёны, прасліцы і дэталі ткацкага станка. Знойдзены шахматная фігура, ігральныя косці, шыла і інш.

Удалося знайсці ваўняную тканіну-абрус з пэўным малюнкам. Шматлікія знаходкі рознакаляровых шкляных бранзалетаў, чырвоныя шыферныя прасліцы. Асабліва цікавая знаходка шкляной пасудзіны з арабскім надпісам, на жаль пакуль яшчэ не расшыфраванай.* Усе знойдзеныя прадметы сведчаць пра значнае развіццё земляробства і рамёстваў, а таксама і гандлю са старажытнарускімі гарадамі і з Бліжнім Усходам.

**Язэп Стаброўскі**

**Надпіс быў часткова расшыфраваны. На пасудзіне было напісана: “С-алім… вучоны”. — “СК”.*

*Слонімцы ў свеце*

# Прафесар Іосіф Юдзелевіч



Сярод слонімцаў, якія з’ехалі з радзімы і сталі знакамітымі навукоўцамі, вылучаецца постаць Іосіфа Гершэвіча Юдзелевіча. Ён — заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі СССР, доктар хімічных навук, прафесар.

Іосіф Юдзелевіч нарадзіўся ў Слоніме 24 ліпеня 1920 года падчас польска-савецкай вайны. У сваёй аўтабіяграфіі ён пасля напіша, што яго бацька быў служачым. Іосіф пасля пачатковай школы і гімназіі паспеў да пачатку Другой сусветнай вайны скончыць фізіка-матэматычны ліцэй. Пры “першых саветах” ён працаваў у Слоніме інспектарам раённага фінансавага аддзела, інспектарам раённай ашчаднай касы. Верагодна, паказаў выдатныя здольнасці, бо яго накіравалі на вучобу ў Мінск. З верасня 1940 да чэрвеня 1941 года Іосіф Юдзелевіч навучаўся на фізіка-матэматычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Пасля была эвакуацыя ў Казахстан, вучоба да лета 1945 года ў Алма-Аце на фізіка-матэматычным факультэце мясцовага пединстытута. Пасля некалькі гадоў працаваў там выкладчыкам, пазней — у Чымкенцкім настаўніцкім інстытуце, дзе ў канцы 1950-х гадоў ўзначальваў кафедру фізікі, уступіў у кампартыю. У 1958 годзе ён стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук, пачаўся яго шлях як навукоўца.

Юдзелевіч пераехаў у горад Усць-Каменагорск, працаваў ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце каляровых металаў. А пасля яго запрасілі ў Навасібірск, дзе слонімец з 1964 да 1989 года ўзначальваў лабараторыю кантроля чысціні паўправадніковых матэрыялаў Інстытута неарганічнай хіміі. У 1972 годзе стаў доктарам хімічных навук. З 1982 года Юдзелевіч быў старшынёй Сібірскага аддзялення Навуковага савета па аналітычнай хіміі Акадэміі навук СССР, каардынаваў і кантраляваў дзейнасць больш чым 40 арганізацый у Сібіры і на Далёкім Усходзе.

Іосіф Юдзелевіч стаў вядомым навукоўцам у галіне аналітычнай хіміі рэчываў высокай чысціні і матэрыялаў электроннай тэхнікі. Ён — аўтар шасці манаграфій і больш за 500 навуковых артыкулаў. Памёр наш зямляк 15 сакавіка 1993 года ў Навасібірску.

**Генадзь Гурскі**

ПОШТА

# Заўвагі да кнігі "Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны. 1916-2016"

У сакавіку гэтага года ў адзіную ў Слоніме кнігарню паступіла кніжка Сяргея Ярша і Сяргея Чыгрына "Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны. 1916-2016". Напісанне такой кнігі — выдатная задумка аўтараў, якія самі са Слонімшчыны, працавалі журналістамі ў "Газеце Слонімскай", а С. Чыгрын працаваў яшчэ і ў "Слонімскім весніку" савецкіх часоў. Яны, што называецца, "у тэме". Ад пачатку кніжка прываблівае прыгожай, густоўна аформленай вокладкай з выявамі лагатыпаў і першых старонак найбольш адметных выданняў. Слушная і структура кніжкі.




У першым раздзеле ("Кароткі нарыс гісторыі перыядычнага друку Слонімшчыны") паслядоўна, ад нямецкай газеты "Шчараўская Амфібія" (1916) і да рэкламнай газеты "ЮниконСервис" (2016), распавядаецца пра перыядычны друк Слонімшчыны, найперш пра акалічнасці, умовы з'яўлення таго ці іншага выдання. Нават па спасылках бачна, якую колькасць інфармацыі давялося "пералапаціць" аўтарам, каб напісаць, напрыклад, пра міжваенныя выданні 1921-1939 гадоў! Другі раздзел прысвечаны слонімскаму самвыдату ў незалежнай Беларусі і тым прыцягвае пільную ўвагу чытача, як сведку гэтага ці нават удзельніка. У трэцім раздзеле — храналогія слонімскіх выданняў, там змешчаны назвы перыёдыкаў за кожны з 100 гадоў. Гэта паказчык прафесіяналізму аўтараў. Чытач адразу бачыць, у якія гады з перыядычным друкам Слонімшчыны было "густа", а ў якія — "пуста". "Храналогія…" лагічна аб'ядноўвае, лучыць першы і другі, апавядальныя раздзелы, з чацвёртым — даведнікам перыядычных і самвыдатаўскіх выданняў. Нататкі ў даведніку размешчаны ў алфавітным парадку, пасля тэкста даюцца спасылкі на крыніцы, 85 нататак маюць выяву лагатыпа ці першай старонкі выдання. А ўсяго ў кніжцы дадзены звесткі пра 107 выданняў — за 100 гадоў слонімскага перыядычнага друку.

Ёсць у кніжцы і хібы. І як для даведачнага выдання, то іх зашмат. І амаль усе яны тычацца выданняў нашага часу, незалежнай Рэспублікі Беларусь!

У "Даведніку" напісана, што самвыдатаўскі лісток "Сцежка да матчынай веры" (2000, чатыры нумары) друкаваўся ў Слонімскай друкарні. Але там быў надрукаваны толькі першы нумар. І па аб'ёме, і па змесце нататка пра "Газету Слонімскую" (з 1997 года) выглядае папялушкай у параўнанні з інфармацыяй пра такія выданні як "Футбольный меридиан" (1995-1996), "Вечерний Слоним с Русланом Генюшем" (1996), "Счастливый дом" (2011-2014). Напісана, што "Тусоўка" (2004, 2007-2009) ёсць выданнем Слонімскай школы маладога журналіста і не пазначана, хто заснавальнік школы, хто кіраўнік. Незвычайная школа: слонімскія хлопцы і дзяўчаты самі сабраліся і самі сябе вучаць журналісцкаму рамяству?! Хоць добра вядома, у тым ліку аўтарам, што школа дзейнічала пры "Газеце Слонімскай". У даведніку няма нататкі пра газету "Слонімская Святліца" (2003, гурток "Юны журналіст" пры грамадскім аб'яднанні "Воля да развіцця"). Заўважым, рэдактар "Слонімскай Святліцы" Вольга Шынкевіч — журналістка "Газеты Слонімскай".

Выбарачна падаецца і іншая інфармацыя. Названы прычыны спынення выхаду "Вечернего Слонима с Русланом Генюшем" і "Сцежкі да матчынай веры" — забарона і ганенні з боку ўладаў, адпаведна свецкіх і царкоўных. Але не названы прычыны спынення наступных самвыдатаўскіх выданняў: "Камвольщик" (2000-2003, Свабодны прафсаюз Беларускі), "Ветразь надзеі" (2001-2003, Таварыства беларускай мовы), "НУР/СВЕТ" (2000-2003, Рэлігійнае аб'яднанне мусульман), "Ад Я да Я" (2001 і 2003, "Воля да развіцця"), "Слонімская Святліца" (2003, "Воля да развіцця"). Няма гэтай інфармацыі, і таму ў раздзеле "Слонімскі самвыдат" замест аналітыкі чытаем (стар. 59): "Па самвыдаце добра відаць, калі адзначалася найбольшая грамадская актыўнасць слонімцаў: гэта канец 1990-х — пачатак 2000-х гадоў. Пасля ўздымаў

надыходзяць часы спаду актыўнасці…, якія калісьці зноў зменяцца на лепшы…перыяд”. Гэта ж не поры года. Уздымы і спады адбываліся не самі па сабе! “А пакуль канстатуем, што ў апошнія гады самвыдат у Слоніме практычна цалкам знік”. Знік? Шэсць самвыдатаўскіх выданняў у 2015 годзе! Болей, чым у канцы 1990-х, хоць і меней, чым у пачатку 2000-х. Іншая справа, што з шасці выданняў крытэрыям самвыдата, на наш погляд, адпавядае толькі “Інфармацыйны бюлетэнь” (з 2014 г., Слонімскі грамадскі цэнтр, рэдактар — Іван Шэга).

Як бачым, асноўныя хібы даведкавай часткі тычацца самвыдату. У “Храналогіі” ў спісе прапушчаны 35 назваў, кожная дзесятая! 31 з іх — гэта самвыдат (25% браку). Аўтары маюць цмянае ўяўленне пра сам тэрмін “самвыдат”. Тут і савецкая насценная газета “Гісторыя вакол нас” (1984), і часопіс “Душы бальшавіцкую гадзіну!” (1996), і орган гарадскіх уладаў “Слонимские ведомости” (1999-2000). Для паўнаты “карціны” ў раздзеле “Слонімскі самвыдат” не хапае друкаванага органа Слонімскага КДБ! У ім шмат інфармацыі, месца якой у даведніку, і інфармацыі, якая дублюе даведнік. Збольшага раздзел падобны на той жа даведнік, толькі састаўлены па гадах. Але месцамі і гэтая паслядоўнасць парушаецца. Напрыклад, апісанне гісторыі грамадскага самвыдату (стар. 53) пачынаецца з бюлетэня “Вятрак” (2000-2004), пасля ідуць “Душы бальшавіцкую гадзіну!” (1996), “Жаўранак” (2000), “Глядзець наперад” (2001-2002), “Ветразь” (1998-1999) і г. д. У даведкавым раздзеле алфавітны прынцып, а тут — хаатычна. У “Слонімскім самвыдаце” ўвогуле не згадваецца альманах “Ад Я да Я” (выданне літаратурнага гуртка ГА “Воля да развіцця”, рэдактар — Мікола Канановіч, журналіст “Газеты Слонімскай”). Між тым заснавальнік і рэдактар бюлетэня “Глядзець наперад” Цімур Куц з’яўляецца выхаванцам гуртка і сааўтарам згаданага альманаха. І менавіта М. Канановіч спрычыніўся да творчай і выдавецкай дзейнасці Ц. Куца. Аналагічна ёсць сувязь “Ветрака” з “Газетай Слонімскай”, “Тусоўкі” — са “Слонімскай Святліцай” і г. д. У гэтым раздзеле адсутнічае якая-кольвечы аналітыка. У выніку чытач не разумее, адкуль што бярэцца і куды дзяецца? Адкуль вытокі самвыдатаўскай актыўнасці на мяжы 2000-х гадоў? Чаму пасля 2003 года грамадскіх самвыдатаўскіх выданняў прыкметна стала меней, як і беларускасці ў іх? Чаму пасля “Ветрака” (рэдактар — А. Шэлестаў) не ўзніклі новыя незалежніцкія ініцыятывы школьнікаў, а замест іх пачалі пладзіцца ведамасныя (спрэс рускамоўныя) выданні школьнікаў пад пільным кантролем школьнай адміністрацыі? А расказаць ёсць што. І расказаць так, каб чытач адчуў атмасферу тых гадоў (дух эпохі), каб за самімі друкаванымі выданнямі ўбачыў жывых людзей, лёсы людскія.

Раздзел “Кароткі нарыс гісторыі перыядычнага друку Слонімшчыны” напісаны больш жыва і цікавей. Ёсць аналітычныя развагі, хоць часам яны губляюцца сярод астатняй апавядальнай інфармацыі. Па тэрміналогіі ёсць заўвагі. Але, як і ў астатніх раздзелах, асноўныя пытанні ўзнікаюць пры разглядзе выданняў часоў незалежнай Рэспублікі Беларусь. Тут, на наш погляд, адчуваецца ўсё тая ж прадузятасць да “Газеты Слонімскай”. Чытачу яшчэ раз нагадваюць пра забарону першага і адзінага нумару “Вечернего Слонима с Русланом Генюшем”. А вось у “ГС”, калі верыць аўтарам, праблемы ўзніклі толькі ў 2008 годзе. Між тым, ужо на першым годзе існавання газеце забаранілі друкавацца ў Слонімскай друкарні, пазней была забарона падпіскі праз “Белпошту”, забарона рэалізоўваць газету праз шапікі “Белсаюздруку” і праз крамы, былі судовыя іскі. Таксама нельга пагадзіцца з вызначаным месцам і роляй выдання ў гісторыі перыядычнага друку Слонімшчыны: “Газета Слонімская” склала канкурэнцыю афіцыйнаму “Слонімскаму весніку”, што, безумоўна, пайшло яму на карысць”. І ні слова, што ад пачатку свайго існавання “ГС” стала і важным грамадска-палітычным чыннікам, асяродкам дэмакратыі на Слонімшчыне. На сённяшні дзень у Гродзенскай вобласці “Газета Слонімская” — адзінае незалежнае грамадска-палітычнае выданне, якое выжыла. Так, дзеля самазахавання “ГС” шмат у чым страціла ўласнае аблічча. І пра гэта трэба пісаць, што “няма таго, што раней было…”. А перад гэтым напісаць пра тое, што было.

“Пасляслоўе” толькі на радасць русіфікатарам: як бы сама па сабе пашыраецца русіфікацыя, беларусы без дай прычыны гавораць на рускай мове, і слонімскі друк не стаў супрацiўляцца…, паплыў па цячэнні, бязвольна паддаўся… Адно спадзяванне, што “дзяржава нарэшце павернецца тварам…”, спыніць гэты працэс, абразуміць беларусаў.

Насамрэч гісторыя беларускага руху на Слонімшчыне, у тым ліку самвыдату 1990-х — 2000-х гадоў ёсць гісторыяй супраціву і гераізму, рамантызму і самаахвярнасці. Пішы, што было і нават не трэба выдумляць міфаў і легенд.

Абагульненне. Бясспрэчна, кніжка С. Ярша і С. Чыгрына патрэбная і цікавая. Зроблена вялікая праца і ў плане сабранай інфармацыі, і ў плане грамадскай карысці найперш на будучыню. За гэта дзякуй аўтарам! Недапрацоўкі ёсць і яны зразумелыя. Адразу ўсяго не ахопіш. Самі аўтары ў пасляслоўі прызнаюць, што “гэтую працу можна і трэба працягваць”. Але недакладнасці, памылкі, замоўчванне пэўных фактаў… — гэта, як лыжка дзёгцю ў бочцы з мёдам, дыскрэдытуе аўтараў і падрывае давер да ўсяго астатняга, напісанага ў кніжцы. Якую гісторыю мы пакідаем нашчадкам?!

**Міхась Варанец**

# Больш дасканалая кніга яшчэ будзе

Міхась Варанец уважліва прачытаў нашу кнігу, трапна выявіў слабыя месцы, памылкі і хібы. І мы ўдзячныя яму за гэта! Не будзем у сваю абарону спасылацца на тое, што першапраходцам заўсёды цяжка. Адразу адзначым, што галоўнае ў кнізе — гэта перыядычны друк, яго гісторыя. Большая частка часу была аддадзена пошуку інфармацыі пра яго. Самвыдат — гэта хутчэй дадатак, якога ў кнізе магло і не быць. Справа ў тым, што інфармацыя пра яго, якую мы паспелі сабраць, аказалася няпоўнай (спяшаліся выдаць кнігу да 100-гадовага юбілею слонімскага перыядычнага друку). І, як цяпер бачым з заўваг Варанца, было памылкай уключаць яе ў кнігу ў такім выглядзе. Гэта адбілася і на "Храналогіі", якую ў апошні момант даводзілася шмат разоў перарабляць, дапаўняць. А ў выніку, праз няўважлівасць, шмат самвыдатаўскіх выданняў і некалькі перыёдыкаў у яе не трапілі.

М. Варанец піша пра "выбарачнасць" падачы інфармацыі. Насамрэч, значная частка згаданых ім хібаў — гэта прыкрыя тэхнічныя памылкі. Пра тую ж "Слонімскую святліцу", яе выдаўца і рэдактара мы напісалі ў раздзеле "Слонімскі самвыдат", а ў "Даведнік" яна не трапіла. Безумоўна, вінаватыя. Але ж зроблена гэта не спецыяльна. Іншая справа, што, сапраўды, пішучы пра "Газету Слонімскую", упусцілі шмат важнага.

Зразумела, што Міхася Варанца, вядомага ў 1990-2000-я гг. на Слонімшчыне грамадскага дзеяча, хвалюе найбольш самвыдат. Мы, нібыта, маем "цмянае ўяўленне" пра сам тэрмін, у нас мала аналітыкі, не высвятлілі прычыны спынення шэрагу выданняў. Не з усімі прэтэнзіямі мы згодныя. Калі незарэгістраваныя бюлетэні выдаваліся ўладамі (а быў такі адзіны выпадак), то іх трэба ігнараваць? Мы так не лічым. Аднак над структурай кнігі, над тэрміналогіяй нам варта было яшчэ папрацаваць.

Варанцу не спадабалася, як у "Пасляслоўі" мы напісалі пра русіфікацыю ў цяперашняй Беларусі. Так, мы лічым, што толькі беларуская дзяржава здольная эфектыўна спыніць гэты працэс. З тэксту Міхася Варанца незразумела, на каго спадзяецца ён.

Заўвагі Міхася Варанца будуць улічаныя намі, калі возьмемся кнігу дапрацаваць і перавыдаць. Такія планы мы мелі ад пачатку, паколькі, калі кніга была ў друкарні, знайшлі інфармацыю яшчэ пра амаль дзясятак невядомых дагэтуль слонімскіх перыёдыкаў. Таму хочацца верыць, што больш дасканалая кніга, з якаснымі вялікімі ілюстрацыямі, з большым накладам (у лютым 2016-га было надрукавана толькі 99 асобнікаў кнігі) яшчэ будзе.А пакуль заклікаем слонімскіх грамадскіх дзеячоў, колішніх і цяперашніх выдаўцоў самвыдату, падзяліцца ўспамінамі пра свае выданні.

Дасылайце іх на адрас "СК": slonimskikraj@gmail.com

**С. Ёрш, С. Чыгрын**

*Слонімскія карэспандэнцыі*

# Пра здымкі фільма "Паланэз Агінскага"



У жніўні 1970 года мінская газета "Голас Радзімы" надрукавала зацемку, якую даслаў са Слоніма журналіст раённай газеты Рыгор Капусцін. У ёй гаворка ідзе пра здымкі на Слонімшчыне мастацкіх фільмаў.

**Здымаецца кіно**

Не ў першы раз маляўнічае наваколле Слонімшчыны вабіць кінематаграфістаў. Тут было знята некалькі мастацкіх і дакументальных фільмаў. Студыя "Казахфільм", напрыклад, здымала ля Жыровіч паўнаметражную карціну "Песня аб Маншук".

І зноў у вёску Жыровічы прыехалі кінематаграфісты. На гэты раз здымкі вядзе кінастудыя "Беларусьфільм". Новая карціна называецца "Паланэз Агінскага" (сцэнарый К[астуся] Губарэвіча). Гэта будзе расказ аб грозных і гераічных падзеях Вялікай Айчыннай вайны. Адну з галоўных ролей — Франка, польскага камандзіра (насамрэч, арганіста касцёла Франэка — СЁ), які быў у партызанскім атрадзе, сыграе польскі акцёр Міхайлоўскі.

Асобныя кадры фільма будуць здымацца таксама ў Гродна і гарадскім пасёлку Наваельня.

**Г. Капусцін**

*Голас Радзімы, 1970, № 34, жнівень, с. 6.*

Фільм "Паланэз Агінскага" (рэжысёр — Леў Голуб) выйшаў на экраны ў 1971 годзе. У свой час ён карыстаўся папулярнасцю ў слонімцаў, цяперашняй моладзі ён ужо, на жаль, малацікавы.

Адзначу, што згаданы Капусціным фільм "Песня пра Маншук" быў зняты ў 1969 годзе рэжысёрам Мажытам Бегаліным па сцэнарыю Андрэя Міхалкова-Канчалоўскага. Яго прэм'ера прайшла ў Маскве праз два месяцы пасля публікацыі ў "Голасе Радзімы". Фільм прысвечаны подзвігу Героя Савецкага Саюза Маншук Маметавай (яна загінула ў 1943 годзе не на Слонімшчыне, а пад Невелем). "Песня пра Маншук" даступная для прагляду ў інтэрнэце.

**СЁ**

*Каляндар*

## Ліпень

**1 ліпеня** 1936 года ў вёсцы Зарытава ў Ляхавіцкім раёне нарадзіўся Іван Карповіч, слонімскі краязнаўца, паэт, настаўнік, грамадскі дзеяч. Кіраваў музеем у СШ № 10. Памёр 8 студзеня 2002 года.



**10 ліпеня** 1944 года Слонім вызвалены савецкімі войскамі ад нямецкіх акупантаў.



**12 ліпеня** 1958 года ў Слоніме ў сям'і паэта Алега Лойкі нарадзіўся Павел Лойка, вядомы беларускі гісторык. У пачатку 1990-х гадоў ён быў складальнікам першых з моманту абвяшчэння незалежнасці школьных падручнікаў па гісторыі Беларусі. Памёр 22 кастрычніка 2010 года.

**16 ліпеня** 1896 года ў вёсцы Чамяры нарадзіўся Андрэй Пракапчук, знакаміты беларускі медык, навуковец у галіне дэрматавенералогіі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Большую частку жыцця пражыў у Мінску. Памёр 13 красавіка 1970 года.



**19 ліпеня** 1943 года ў савецкім канцлагеры ў Камсамольску-на-Амуры загінуў беларускі паэт Сяргей Дарожны (сапраўднае прозвішча — Серада). Ён нарадзіўся ў Слоніме ў сям'і вайскоўца 25 лютага 1909 года.



**20 ліпеня** 1880 года ў Слоніме нарадзіўся Гальяш Леўчык (сапраўднае прозвішча — Ляўковіч), беларускі паэт-нашанівец, перакладчык, публіцыст, краязнаўца. Памёр у верасні 1944 года ў Варшаве.



**23 ліпеня** 1896 года ў вёсцы Мяльканавічы Слонімскага раёна ў сям'і царкоўнага рэгента нарадзіўся харавы дырыжор, кампазітар і педагог Антон Валынчык. Памёр 13 лістапада 1985 года, пахаваны на гарадскіх могілках у Гродне.

**24 ліпеня** 1920 года ў Слоніме нарадзіўся Іосіф Юдзелевіч, доктар хімічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі СССР. Памёр 15 сакавіка 1993 года, пахаваны ў Новасібірску (Расія).



**24 ліпеня** 1976 года ў вёсцы Глоўсевічы Слонімскага раёна нарадзіўся Іван Ціхан, вядомы беларускі спартсмен, кідальнік молата. Жыве ў Гродне.

**29 ліпеня** 1960 года ў ЗША памёр беларускі рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар Хведар Данілюк. Ён нарадзіўся 12 жніўня 1887 года ў вёсцы Сурынка Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і.

Беражы лес
- ЧЫТАЙ КНІГІ НА
KAMUNIKAT.ORG
• 12 000 КНІГАЎ, ГАЗЭТАЎ І ЧАСОПІСАЎ • РАЗМОВЫ ПРА КУЛЬТУРУ
• ЛІТАРАТУРНЫЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ • НАВІНКІ ВЫДАВЕЦКАГА РЫНКУ
kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

### *УДАКЛАДНЕННЕ*

У № 5 у "Календары" былі допушчаныя прыкрыя памылкі. Беларускі літаратуразнаўца і перакладчык Уладзімір Сакалоўскі насамрэч нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы Слонімскага раёна 4 ліпеня (а не 4 чэрвеня, як падае "Кніга Памяць. Слонімскі раён", і не 10 снежня, як пішуць некаторыя інтэрнэт-рэсурсы) 1930 года. Алімпійскі чэмпіён Уладзімір Раманоўскі нарадзіўся ў Слоніме 21 ліпеня 1957 г. (а не 21 чэрвеня, як падаюць некаторыя інтэрнэт-крыніцы). Прыносім прабачэнні нашым чытачам.

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка на СК абавязковая
Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
Сяргей Ёрш
(рэдактар нумару)
Сяргей Чыгрын